**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 39 (860) 29 верасня 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



Я люблю Беларусь! Супольная песня Сашы Нема і ўсіх выступоўцаў на сцэне Глыбоцкага ГДК на закрыцці велапрабегу Смаленск-Глыбокае.

*Фота Зм. Лупача.*



ISSN 2077-8023



Пастаўскі раён

# Радасць наваселля

■ Кастусь Александровіч

**Крызіс айчыннай будаўнічай галіны стаў найбольш відавочным у глыбінцы, дзе многія мясцовыя будаўнікі зараз проста не маюць працы.**

На шчасце, падобных праблем пакуль не мае адна з вядучых у трэсце "Полацксельбуд" бударганізацый ДКУАБП "Рассвет Пастаўскі". Яе спецыялісты зімой здалі навасёлам 17-ы па ліку шматпавярховы жылы дом у райцэнтры, зараз заканчваюць яшчэ адну шматпавярхоўку ў мікараёне вуліцы Азёрнай і заклалі фундамент чарговага дома па суседству з возерам Задзеўскім.

Напрыканцы лета кіраўнік бударганізацыі Альфрэд Малец уручыў сімвалічны ключ ад шыкоўнага двухпавярховага катэджа сям'і Вольгі і Аляксандра Вавінскіх, якія сталі бацькамі-выхавальнікамі першага ў рэгіёне дзіцячага дома сямейнага тыпу. У сваю сям'ю гэтыя нераўнадушныя людзі прынялі яшчэ сем абдзеленых ласкай дзяцей-сірот. Узвесці светлы і ўтульны асабняк для пастаўскіх будаўнікоў было справай гонару. Іх калектыў захаваў, у адрозненне ад суседзяў, свае асноўныя і высокакваліфікаваныя кадры, мае дастаткова заказаў для плённай дзейнасці.

У адным з дамоў горада, дзе раней месцілася рабочая сталовая на першым паверсе, рассветаўцы дапамаглі справіць наваселле супрацоўнікам аддзела прымусовага выканання Пастаўскага раёна. З раней цеснага памяшкання яго супрацоўнікі займелі кожны асобны службовы кабінет з камп'ютарнай аргтэхнікай, дапаможныя пакоі, пункт аховы з відэаназіраннем. Таксама мясцовыя будаўнікі працуюць цяпер на аб'ектах і па-за межамі раёна, у вёсцы Коўзаны даводзяць да ладу яшчэ тры шматпавярхоўкі для працаўнікоў рабатызаванай фермы.

Полацкі раён

# Пятля – не разумны ўчынак

■ Чэслаў Якубовіч.

**Па розных прычынах зводзяць суайчыннікі рахункі з жыццём і вельмі жахліва, калі на такі ўчынак рашаюцца зусім ужо маладыя.**

Сапраўдную трагедыю перажыла днямі шматдзетная сям'я з шасці дзяцей, якая пражывае ў адным з аддаленых мікрараёнаў Наваполацка, у гарпасёлку Баравуха. Спачатку як гром з яснага неба прагучала вестка, што ў лясным масіве паблізу Браслава знайшлі павешаным іх 17-гадовага брата, навучэнца прафтэхкаледжа №89, які прыехаў сюды на вытворчую практыку. Напярэдадні яго знаёмыя бачылі самагубцу на дні нараджэння, яго настрой быў нармальным, ніякіх планаў аб задуме пакінуць гэты свет ён не выказваў, па месцу вучобы характарызаваўся станоўча. Праўда, потым на ягонай старонцы ў сацсетках за суткі да трагедыі з'явіліся падобныя думкі. Праз некалькі дзён аналагічным чынам развітаўся з жыццём ягоны старэйшы 25-гадовы родным брат, на другі дзень пасля пахавання. Праўда, у гэтага хлопца жыццё складвалася не без праблем, ён быў асуджаны за крадзеж і адбываў пакаранне на "хіміі" ў калоніі-пасяленні адкрытага тыпу ў Беларускай сталіцы. Адтуль асуджанага адпусцілі дамоў правесці роднага брата ў апошні шлях. Ужо пасля пахавання ў гэтай сям'і ўзнік эмацыянальны канфлікт з маці з-за нібыта хібаў у арганізацыі жалобнай цырымоніі.Чамусьці пасля гэтага старэйшы сын пайшоў з дому, але ён раней выказваў адкрыта намеры аб сваіх планах самагубства.Толькі на наступную раніцу яго труп таксама ў пятлі знайшлі прахожыя ў лесапаркавай зоне нафтаграда. Па фактах самагубстваў Следчы камітэт пачаў праверку, пакуль родныя і знаёмыя перажываюць шок. Але б якія ні былі прычыны, нічога ўжо змяніць нельга ў жыццях двух маладых людзей, якія так недаравальна рана абарваліся…

Полацкі раён

# Каманду адправілі ... на завод

■ Станіслаў Раманчук.

**Агульная неспрыяльная сітуацыя ў беларускай эканоміцы стала негатыўна адбівацца і на іншых сферах дзейнасці.**

Адчулі гэта па сабе многія і ў нядаўна адным з самых багатых гарадоў краіны Наваполацку, дзе знізіліся зарплаты, у заняпадзе апынуліся ягоныя вядучыя спартыўныя клубы, а дэпутатам парламента паўторна быў перавыбраны праслаўлены мясцовы алімпіец Вадзім Дзевятоўскі. З разгромных паражэнняў пачала сезон у чэмпіянаце Беларусі па хакеі гордасць у мінулым гараджан каманда "Хімік-СКА". Ад яе з-за фінансавых праблем адмовіўся нафтаперапрацоўчы завод, толькі з дапамогай адміністрацыйнага рэсурсу гарадскі бюджэт стаў яе фінансаваць, але вядучыя хакеісты адсюль з'ехалі, не бачачы для сябе перспектыў. На грані вылету з элітнага футбольнага дывізіёна апынуўся мясцовы футбольны клуб "Нафтан", які ідзе на апошнім месцы ў турнірнай табліцы вышэйшай лігі і з'яўляецца адным з асноўных прэтэндэнтаў на паніжэнне ў класе, вылет у першую лігу. Не дапамаглі гэтай камандзе ні адстаўка трэнерскага штабу, ні нават спецыяльная экскурсія днямі для ігракоў на сам завод-гігант, асноўны спонсар клуба. Футбалісты пагаядзелі, у якіх умовах працуюць іх прыхільнікі, пабачылі новую сучасную ўстаноўку па перапрацоўцы нафты АВТ-6, якую запускаюць неўзабаве па праграме мадэрнізацыі завода. Каманда пасля гэтага ў наступным матчы нацыянальнага першынства старалася, выглядала няблага, але зноў прайграла чарговаму саперніку, бо яе вядучыя майстры пакінулі калектыў з-за непагашаных даўгоў па зарплаце.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 29.09.16 | | | | Пятніца 30.09.16 | | | | Субота 01.10.16 | | | | Нядзеля 02.10.16 | | | | Пан. 03.09. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +11 | +12 | +15 | +12 | +14 | +14 | +16 | +13 | +12 | +12 | +15 | +11 | +8 | +7 | +15 | +12 | +11 | +11 | +13 |
| Ціск | 742 | 742 | 744 | 744 | 741 | 740 | 741 | 742 | 742 | 743 | 745 | 747 | 749 | 751 | 751 | 752 | 752 | 750 | 750 |
| Вецер м/сек | 5 Пд-З | 4 З | 5 Пн-З | 4 Пд-З | 6 Пд-З | 7 Пд-З | 8 З | 5 Пд-З | 4 Пд-З | 5 Пд-З | 8 З | 3 З | 3 Пд | 2 Пд | 2 Пд-З | 4 Пд-У | 5 Пд-У | 7 У | 3 Пд |
| Вільготнасць | 96 | 95 | 79 | 88 | 92 | 86 | 74 | 79 | 93 | 89 | 65 | 85 | 96 | 99 | 64 | 87 | 95 | 96 | 97 |

# Аб самым надзённым

## ШЧОДРА АБЛАСКАНЫ ДЗЯРЖАВАЙ БЕЛАРУСКІ ХАКЕЙ ПАЦЯРПЕЎ ФІАСКА І НЕ ЗМОГ ПРАБІЦЦА ЗНОЎ НА АЛІМПІЯДУ




■ Аляксандр Цішкевіч.

**Спецыялісты ўжо выявілі ўсе прычыны такога сумнага выніку, а пакуль відавочна, што ў нашай краіне патрэбна значна лепей развіваць дзіцяча-юнацкі спорт, адэкватна аплочваць працу дзіцячых трэнераў, мець сучасную спартыўную базу. Тады будуць лепшыя вынікі паўсюдна і ў тым жа хакеі ў прыватнасці.**

Апошнім часам прыемных паведамленняў аб поспехах беларускіх спартсменаў на сусветных арэнах стала прыкметна меней. Вось і пасля самай няўдалай для суверэннай Беларусі Алімпіяды ў Рыа-дэ-Жанейра шматлікіх айчынных аматараў чакала новае, можа быць яшчэ больш вялікае расчараванне. Прычым дома, у беларускай сталіцы на родным лёдзе наша хакейная зборная, як вядома, крыўдна саступіла ў серыі пасляматчавых булітаў славенцам. У выніку беларускія хакеісты не змаглі ў трэці раз з чатырох спроб адабрацца на наступныя зімовыя Алімпійскія гульні ў Карэі.

Спецыялістам добра вядома, што такія галоўныя турніры чалавецтва раз у 4 гады не ідуць у ніякае параўнанне са штогадовымі чэмпіянатамі свету, куды звычайна збіраюцца гуляць не самыя моцныя майстры шайбы. Беларускі лідар і вялікі прыхільнік гэтай імклівай гульні на лёдзе быў таксама расстроены і прыгразіў бліжэйшыя гады навесці тут парадак і ў цэлым у спорце. А. Лукашэнка паабяцаў, што неўзабаве "разберемся со всеми функционерами, которые, наверное, немного зажирели или, как говорят у нас, зажрались". Такую рэакцыю кіраўніка дзяржавы можна зразумець, бо за апошнія чвэрць стагоддзя колькі ў Беларусі сродкаў уклалі ў гэты спорт №1.

Ужо 30 Лядовых палацаў маем у розных кутках краіны, а тыя ж славенцы – толькі 7 пляцовак, а нас рэгулярна абыгрываюць, маючы ў 5 разоў меней насельніцтва і толькі каля тысячы прафесійных хакеістаў разам з жанчынамі і дзецьмі, якія стаяць на каньках. З іншага боку, з гэтай няўдачы не трэба рабіць неверагодную трагедыю, махаць шашкамі направа-налева, шукаючы вінаватых. Што зробіш, гэта спорт высокіх дасягненняў, дзе многае залежыць ад аднаго толькі эпізоду. На гэты раз пашанцавала больш нашым сапернікам, хоць пэўныя высновы з такога выніку рабіць патрэбна, але ламаць створаную сістэму, кідацца ў крайнасці і папракаць беларускую каманду, што яна летам "на югах" адпачывала, будзе няправільна.

Пакуль жа парадуемся таму, што Міжнародная федэрацыя хакея можа зноў прадаставіць Беларусі права правесці чэмпіянат свету ў 2021-2022 гадах у Мінску. А зараз, канешне, усім горка і крыўдна, што як у 2013 годзе ў беларусаў пуцёўку на паездку на Алімпіяду адабралі славенцы, якія ў сусветным рэйтынгу адстаюць ад нас на 6 месц і знаходзяцца на 15-й пазіцыі, а наша зборная – 9-я. З іншага боку, на няўдачным адборы, хакейная зборная Беларусі выступіла значна больш упэўнена, чым на апошнім сусветным першынстве ў Расіі. Таксама насцярожвае той факт, што акрамя нас не змаглі прабіцца на Алімпіяду і хакеісты Латвіі, Казахстана, якія таксама прадстаўлены базавымі клубамі сваіх зборных у КХЛ.

Спецыялісты ўжо выявілі ўсе прычыны такога сумнага выніку, а пакуль відавочна, што ў нашай краіне патрэбна значна лепей развіваць дзіцяча-юнацкі спорт, адэкватна аплочваць працу дзіцячых трэнераў, мець сучасную спартыўную базу. Тады будуць лепшыя вынікі паўсюдна і ў тым жа хакеі ў прыватнасці. Адзіная загвоздка, што хакей – даволі дарагі від спорту, адна амуніцыя на тысячы долараў чаго вартая. А колькі яшчэ грошай каштуе ўтрыманне лядовых крытых каткоў. Для нашай не самай багатай і моцнай эканамічна краіны развіваць хакей няпроста. На практыцы перыферыйныя хакейныя клубы з абласных гарадоў, таго ж Наваполацка, Жлобіна, Ліды даволі бедныя, ледзь-ледзь зводзяць канцы з канцамі з-за няпростай эканамічнай сітуацыі.

Пасля асечкі ў галоўным матчы года будзе глупствам мяняць трэнерскі штаб зборнай Беларусі на чале з канадскім спецыялістам Дэйвам Льюісам. У нацыянальнай зборнай нармальная абстаноўка, ігракі знаходзяць агульную мову з іх настаўнікамі, склаўся баяздольны калектыў. І што цяпер іх разганяць? У супрацьлеглым выпадку беларускай камандзе "свеціць" вылет з эліты на чарговым сусветным чэмпіянаце ў 2017 годзе. З цягам часу любыя няўдачы забываюцца, расчараванні праходзяць, бо беларусаў чакаюць у паўсядзённым жыцці іншыя цяжкасці і праблемы.

Далейшыя перспектывы развіцця беларускага спорту абяцалі намецць на алімпійскім сходзе з удзелам главы дзяржавы. Між тым, зразумела, што званне спартыўнай краіны Беларусі належыць падмацоўваць пэўнымі станоўчымі вынікамі і дасягненнямі. Будзе добра, калі нашы дзеці будуць імкнуцца станавіцца чэмпіёнамі, мець гарманічную фігуру, болей часу праводзіць на спортпляцоўках на свежым паветры, чым увесь час за камп'ютарамі. Вельмі мае рацыю А. Лукашэнка, калі гаворыць, што належыць браць прыклад з заакіянскіх спартсменаў. Сапраўды, сярод амерыканцаў, канадцаў і большасці еўрапейцаў нікога з дзяцінства не трэба пераконваць, як важна займацца спортам і тым жа хакеем. У беларусаў ёсць магчымасці паправіць сітуацыю ў гэтай сферы, а таксама ў найпапулярнейшай гульні чалавецтва – футболе.

## Дзень за днём

**На будаўніцтве Беларускай АЭС асвоілі ўжо звыш 2 млрд. USD. Правядзенне парламенцкіх выбараў каштавала каля 10 млн. долараў, у парламенце зноў з'явілася апазіцыя. Упершыню за 9 гадоў у Беларусі дэфляцыя, знізіліся ў жнівені цэны на 0,1%. А. Лукашэнка падтрымаў стварэнне рэестра банкаўскіх гарантый. У Беларусі запланавалі ў 2017 годзе ўзвесці 3,5 млн. кв. метраў жылля. Кітай падараваў Беларусі больш 100 млн. USD на ўзвядзенне 16 дамоў (1432 кватэры) сацыяльнага жылля. Банк ЕБРР падтрымае крэдытамі беларускія дзяржпраграмы. Беларусам знялі абмежаванні на выезд за граніцу на аўтамабілях.**

# Важнейшыя навіны свету

**Кітай.** На прайшоўшым саміце G20 лідары ЗША і Расіі так і не дамовіліся па Сірыі, члены арганізацыі дасягнулі кампрамісу аб шляхах развіцця сусветнай эканомікі.

**Расія.** Віцэ-прэм'ер урада РФ А. Дварковіч назваў ілжывымі паведамленні аб нібыта дамоўленасцях з Беларуссю на перамовах па новай формуле цаны за газ.

**Германія.** Прэм'ер-міністр Баварыі Хорст Зеехофф запатрабаваў ад канцлера А. Меркель змяніць палітычны курс краіны, скарэктыраваць падаткі, міграцыю, бяспеку, пенсіі.

**Расія.** Расійскі лідар У. Пуцін прызнаўся, што пакуль не вызначыўся, ці будзе ён удзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах 2018 года, любой краінай цяжка кіраваць.

**Англія.** З-за крызісу на нафтавым рынку і санкцый, як пацвердзіла газета "Times", у Расіі заканчваюцца яе рэзервы, мільёны расіян апускаюцца ў беднасць, бюджэт трашчыць.

**ЗША.** Буйная авіякампанія Delta з-за зніжэння пасажырапатоку поўнасцю спыніла палёты ў Расію, так зрабілі яшчэ 4 кампаніі, рэзка скарацілі рэйсы Air France і Cathay Pacific.

**Украіна.** Стратэгічнай мэтай краіны, як пацвердзіў прэзідэнт П. Парашэнка, застаецца ўступленне ў НАТО, умацаванне арміі, ён абвінаваціў Расію ў працягу ваеннай агрэсіі.

**ЗША.** Дырэктар нацыянальнай разведкі Д. Клаппер узначаліў расследаванне спецслужб краіны спроб Расіі паўплываць на прэзідэнцкія выбары пры дапамозе кібератак.

**Куба.** Глава краіны Р. Кастра папрасіў У. Пуціна пачаць ільготныя пастаўкі расійскай нафты на 1 млрд. долараў пасля спынення яе адгрузкі з крызіснай Венесуэлы.

**Узбекістан.** Парламент 32-мільённай краіны прызначыў главу ўрада Шаўката Мірзіёева часова выконваць абавязкі прэзідэнта, дагэтуль тут амаль 27 год правіў І. Карымаў.

**Францыя.** Да канца года Англія ля французскага порта Кале ўзвядзе сцяну, каб перашкодзіць нелегалам пападаць у Еўратунель і далей на тэрыторыю Брытаніі.

**Расія.** Урад РФ абрушыўся на адзіны незалежны сацыялагічны "Левада-цэнтр" пасля яго ных дадзеных аб рэальным становішчы ў краіне, падзення даверу да Пуціна і Крамля.

**Польшча.** Прэс-сакратар Мытнай палаты ў Беластоку М. Чарнецкі паведаміў, што толькі за паўгода сёлета беларусы купілі ў польскіх магазінах тавараў на 150 млн. долараў.

**Іспанія.** На поўначы краіны ў рэгіёне Галісія раніцай сышоў з рэек пасажырскі поезд у выніку сутыкнення з пуцеправодам, 2 пасажыры загінулі, было шмат параненых.

**Венесуэла.** Эканамічны крызіс прывёў да рэзкага павелічэння колькасці бяздомных кошак і сабак, якіх не могуць пракарміць уже нават прадстаўнікі раней сярэдняга класу.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## Міністэрства ЖКГ: За ацяпленне будзем плаціць, як у студзені-лютым 2016 года



■FINANCE.TUT.BY

**Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі запэўнівае, што самы дарагі радок у нашых жыроўках — ацяпленне — не будзе расці ў цане ў гэтым годзе. «Кошт ацяплення будзе ў межах лічбаў, якія былі ў пачатку года», - заявіў прэс-сакратар міністэрства Генадзь Аксціловіч.**

Прадстаўнік камунальнікаў, кажучы аб цане на ацяпленне, спаслаўся на ўказ Прэзідэнта №107. Гэты дакумент, нагадаем, усталяваў гранічныя тарыфы на «камуналку» да канца гэтага года.

«Кошт ацяплення змяняцца не будзе. Сярэдняя выніковая лічба будзе ў межах тых лічбаў, якія грамадзяне атрымлівалі ў студзені-лютым», - адзначыў Генадзь Аксціловіч.

Па гэтым указе ацяпленне для насельніцтва каштуе 13,3 рубля (133 тысячы ў старых грошах) за 1 Гкал. Стоадсоткавы тарыф (напрыклад, для пустых кватэр – 85,5 рубля (855 тысяч старымі).

Кошт ацяплення рэзка вырас у пачатку гэтага года разам з іншымі тарыфамі. Аднак пасля таго, як Прэзідэнт заявіў, што тарыфы напісалі «ад балды», цэны на паслугі ЖКГ пералічылі, аднак цяпло ў дамах не патаннела.

Пра тое, што пакуль жыроўка не падаражэе беларусаў нядаўна запэўніў і Аляксандр Лукашэнка. Да павышэння варта рыхтавацца ўжо ў 2017 годзе. «У наступным годзе 5 даляраў будзе дакладна. У колькі гэта выльецца адсоткаў, не ведаю», — заявіў кіраўнік дзяржавы.

Нагадаем, зараз беларусы кампенсуюць 58% выдаткаў на «камуналку». Да 2018 года гэты паказчык павінен складаць 100%.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Беларускую эканоміку, якая практычна не змянілася з савецкіх часоў, як заявіў кіраўнік Даследчага цэнтра ІПМ І. Пеліпась, чакаюць даволі складаныя гады наперадзе.

**Астравец.** Доктар тэхнічных навук, прафесар Г. Лепін заявіў, што Беларускую АЭС будуюць на крайне небяспечнай пляцоўцы, дзе ўжо быў магутны землятрус.

**Баранавічы.** На 558-м авіярамонтным заводзе распрацавалі мабільную пускавую ўстаноўку для прымянення беларускіх беспілотных лятальных апаратаў.

**Мінск.** Палітолаг А. Класкоўскі заявіў, што самая вялікая наша праблема: выбары не з'яўляюцца выбарамі, у Беларусі практычна няма палітычнага жыцця, партыі кволыя.

**Магілёў.** Рэктар дзяржуніверсітэта імя Куляшова К. Бандарэнка на сустрэчы папярэдзіў студэнтаў, што не прагаласаваўшыя датэрмінова патрапяць у спіс "няўдачнікаў".

**Мінск.** Абваліць курс нацвалюты, як папярэдзіў эканаміст У. Тарасаў, могуць знешнія фактары: дэвальвацыя рубля РФ, змена ставак ФРС ЗША і спад у эканоміцы Кітая.

**Гродна**. Бургамістр польскага Аўгустова В. Валюлік прыплыў у горад на байдарцы па Аўгустоўскаму каналу, падпісаў пагадненне аб трансгранічным супрацоўніцтве.

**Слонім.** З-за парушэнняў супрацьпажарных патрабаванняў пры правядзенні агнявых работ у райцэнтры днём згарэла пральня на Косаўскім тракце.

**Мінск.** Ваенны эксперт А. Алесін заявіў, што з'яўленне ў Беларусі ўласнай сістэмы залпавага агню "Паланез" не парадавала, а раздражніла саюзніцу Расію.

**Узда.** У сталічным СІЗА №1 памёр 30-гадовы былы дырэктар мясцовага райаграсервіса А. Біч, асуджаны за хабар разам з былым главой раёна В. Пахольчыкам.

**Чачэрск.** Пасля маштабнай рэканструкцыі на працягу 11 гадоў у райцэнтры адкрылі сучасную паліклініку з найноўшым абсталяваннем услед за абноўленай райбальніцай.

**Мінск.** Вядомы расійскі журналіст з ТАСС М. Гусман паведаміў, што А. Лукашэнка запэўніў яго ў інтэрв'ю аб тым, што ягоны сын Мікалай не будзе прэзідэнтам.

**Магілёў.** Сярэбраны прызёр Алімпіяды В. Стральцоў заявіў, што думае пераехаць жыць у Віцебск, дзе да яго адносяцца па-чалавечы, у адрозненне ад мясцовых улад.

**Мсціслаўль.** Услед за вяртаннем шэрагу вуліц райцэнтра іх гістарычных назваў райсавет дэпутатаў надаў цэнтральнай плошчы імя земляка, першадрукара Пятра Мсціслаўца.

**Мінск.** Экс-міністр спорту і турызму А. Грыгараў назваў учынак А. Фомачкіна з вынасам флага Расіі на Паралімпіядзе хуліганскім, мы лезем туды, куды нам не трэба.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## На гэтым тыдні беларусы атрымаюць субсідыі на ЖКГ

■Белтэлерадыёкампанія

**У Беларусі на гэтым тыдні беларусы атрымаюць безнаяўныя субсідыі для частковай кампенсацыі платы за жыллёва-камунальныя паслугі.**

Згодна з Прэзідэнцкім указам, на такую падтрымку могуць разлічваць сем'і, дзе аплата ЖКГ перавышае ўсталяваны адсотак ад сукупнага даходу. Аўтаматычна з 1 кастрычніка субсідыі пададуць пенсіянерам і інвалідам. Астатнія грамадзяне для атрымання дапамогі павінны звярнуцца ў адпаведныя інстанцыі. Жыллёвымі субсідыямі ў Беларусі змогуць скарыстацца каля 400 тысяч сем'яў

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** У пачатку года сёлета, як пацвердзіла "Сельская газета", даўгі гаспадарак вобласці дасягнулі 15 трлн. рублёў, толькі ¼ частка кароў доіцца на сучасных фермах.

**Орша.** Тэлеканал АНТ паказаў сюжэт пра 26-гадовага фермера з дыпломам БАТУ Паўла Гайшуна, якому чыноўнікі не перадаюць свабодную зямлю апрацоўваць.

**Ушачы.** Вялікія страты панеслі малаказборшчыкі і вяскоўцы, калі ў жніўні малзавод 5 разоў вяртаў назад сабранае малако з антыбіётыкамі пры лячэнні людзьмі іх кароў.

**Паставы.** Упершыню афіцыйная делегацыя раёна разам з народным ансамблем песні "Вітанне" наведалі латвійскі гарадпабрацім Віесітэ ля Рыгі на свяце Дня горада.

**Наваполацк.** Пасля рэканструкцыі ў вучэбным корпусе дзяржуніверсітэта ў пасёлку Межрэчча адкрылася сталовая на 100 месц для студэнтаў юрфака і спортпедфака.

**Віцебск.** У адноўленым будынку XIX стагоддзя ГЭС першага ў Беларусі трамвая адкрыўся ўнікальны музей прыватных калекцый, філіял абласнога краязнаўчага музея.

**Гарадок.** На пашы адной з гаспадарак раёна прыстрэлілі агрэсіўнага незакальцаванага быка, які забіў 56-гадовага пастуха і пашкодзіў грудную клетку яго 38-гадоваму калегу.

**Талачын.** Паблізу вёскі Літвякі трактарыст не справіўся з кіраваннем, з'ехаў у вадаём, перакуліўся і трагічна загінуў, супрацоўнікі МНС дасталі з вады яго цела.

**Камаі.** Падчас імшы ў гонар Маці Божай Чанстахоўскай у касцёле з удзелам Генконсула Польшчы М. Пэндэха адкрылі мемарыяльную дошку земляка, музыканта С. Казуры.

**Докшыцы.** У раённай бібліятэцы прайшлі ўрачыстасці з нагоды 65-годдзя земляка, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Фёдара Палачаніна, аўтара 17 кніг і п'ес.

**Глыбокае.** Група мясцовых краязнаўцаў і грамадзян набыла на нямецкім аукцыёне 4 рэдкія фотаздымкі, зробленыя ў горадзе падчас II Сусветнай вайны.

**Браслаў.** Міліцыя знайшла злодзея, 42-гадовую жыхарку вёскі Мурмішкі і забрала веласіпед, украдзены летам у пенсіянеркі з райцэнтра з пад'езда яе дома.

**Полацк.** Суд пакараў 3 месяцамі арышту маладога хлопца за хуліганства, на падпітку ён збіў у салоне аўтобуса на канечным прыпынку вадзіцеля аўтапарка № 2.

**Орша.** Падчас перавозкі на жорсткай счэпцы на аэрадром Кукавячына на тэрыторыі раёна лопнуў стопар і ваенны самалёт Су-27 без крылаў зваліўся ў кювет, ніхто не пацярпеў.

**Сянно.** Да абласных "Дажынак" на абноўленым ФАКу адкрылі і фітнесзалу, на гарадскім стадыёне паклалі сучасную сінтэтычную бегавую дарожку з палімернай крошкі.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Каб азёры былі празрыстымі і рыбы там шмат!

■ Уладзімір Скрабатун, *тэкст і фота.*

**Журналісты "Вольнага Глыбокага" правялі чарговы "круглы стол". Сёння ў якасці эксперта мы папрасілі пабыць Аляксея Віктаравіча Протаса (А.П.), начальніка міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету. Тэма – "Як зберагчы і памножыць прыродныя багацці Глыбоччыны?"**

**Ул. Скрабатун (У.С.):** Аляксей Віктаравіч, ёсць досыць актуальнае пытанне, гэта пытанне стану нашых азёраў. Як кажуць спецыялісты – век возера ўсяго 10 тысяч гадоў. Дзясяткі азёраў на Глыбоччыне ўжо зніклі, ператвараючыся ў балоты. У нас, амаль у межах горада, на адлегласці ўсяго кіламетра, знаходзіцца досыць дэпрэсіўнае возера – Забельскае (на старых мапах падпісанае – *Белае*). Часам зімой там здараюцца заморы. Возера мелкаводнае, глыбіня дзесьці 1,5 метра. Мала вады – мала кіслароду. Гіне зімой рыба. Рыбакі часта скардзяцца на непрыемны пах вады. І што, наогул, на Забельскім возеры можна вывудзіць? Летам – срэбнага карася, зімой – дробнага акуня.

Мы маем даволі вялікае возера, але карысці ад яго – ніякай! На яго берагах няма катэджаў, як, напрыклад, на Сапелінскім возеры, яго не выкарыстоўваюць для летняга адпачынку (купання), няма ў ім і каштоўных пародаў рыб: ляшча, ліня, шчупака, судака.

Мой асабісты досвед, як колішняга інжынерабудаўніка, паказвае, што, напрыклад, у Латвіі яшчэ за савецкім часам адсутнічала, ці прысутнічала ў малой колькасці, кар'ернае здабыванне пяску ці жвіру. Там гэты будаўнічы матэрыял здабываюць са дна рэк, ці азёраў. Такім чынам, зберагаюцца лясныя масівы, якія маглі б патрапіць пад кар'еры, а самі рэкі ўглыбляюцца – становяцца глыбокімі, суднаходнымі, багатымі на рыбу.

А цяпер уявім, што на Забельскім возеры усталёўваюць земснарад – глей, торф, сапрапель па трубах перапампоўваецца на бліжэйшае калгаснае поле. Поле становіцца ўрадлівым, возера ўглыбляецца. Такім чынам, можна ўглыбіць вадаём – на 3, 5, 10 метраў. Дарэчы, некаторыя земснарады могуць здабываць пясок аж да глыбіні ў 40 метраў. Можна колькі заўгодна доўга – 5, 10, 50 гадоў – здабываць пясок у адным месцы для патрэбаў дарожнікаў, ці камунальнікаў. І тут не павінна ўзнікаць пытанне: "Дзе ўзяць грошы?" Грошы на гэта заўсёды ёсць, бо зімой пяском пасыпаюцца дарогі, пясок ідзе на выраб асфальту, на адсыпку новых дарог, на добраўпарадкаванне тэрыторый, на выраб бетону і раствору. Гэта ўключаецца ў каштарыс. Нарэшце, пясок можа купіць і прыватнік для сваіх патрэбаў. Толькі заміж экскаватара, які здабывае пясок ці жвір у кар'еры, трэба – дарожнікам, ці камунальнікам – набыць земснарад, які будзе здабываць пясок са дна азёраў, ці рэк.

**А.П.:** Згодны, так! Я думаю, што ў нас – усё з-за нашай беднаты! Здабываць пясок, ці жвір са дна ракі – карысць для нашай гаспадаркі і для самой ракі! У нас жа малыя рэкі зараслі катастрафічна!

Што датычна Забельскага возера, то там ёсць глыбіні і большыя, чым за паўтара метра, зрэдку трапляецца не толькі акунь, але і плотка, і шчупак. А так, згодны, збольшага – возера мелкаводнае. Гадамі яго забруджвалі, аблоўлівалі сеткамі. Ад ачысных з Петрунова сюды часам траплялі чалавечыя рукі, ногі. Праўда, гэта было тады, калі я яшчэ працаваў у МУСе. Была пры возеры і ферма з качкамі. Усё гэта адбілася на стане возера.

Так! Я дзвюма рукамі – за! Возера можна ачысціць, углыбіць. Мы маем вялікае возера хоць і не ў цэнтры горада, але амаль у межах Глыбокага! Для адпачынку – што лепш патрэбна! Аднак, яно ў гэтых мэтах не выкарыстоўваецца!

**У.С.:** Ёсць класіфікацыя азёраў: ляшчова-судаковыя, ляшчова-шчупаковыя, карасёва-лінёвыя і г.д. Возера Гінькава, трэцяе па глыбіні ў Беларусі, адносіцца сігавастынкавых. Адносіцца! Аднак, штосьці не было чуваць, каб нехта там лавіў стынку (інакш – сняток). Ці водзіцца, насамрэч, рыба стынка дзесьці на Беларусі, акрамя возера Доўгага, дзе яе, рэальна, могуць лавіць ці лавілі? Можа нашай Глыбоцкай інспекцыі варта ініцыяваць адлоў стынкі ў возеры Доўгім для зарыблення ёю возера Гінькава? Працягнуць для гэтага рыбакоў-аматараў? Неяк боязна! А раптам на Доўгім возеры адбудзецца нейкі катаклізм, і стынка знікне! Крый, Божа, натуральна! А так для гарантыі – будзе і ў Гінькавым возеры?

**А.П.:** Не скажу дакладна ў якіх азёрах на Беларусі водзіцца стынка, але ў 2-3-х ёсць, здаецца і ў Нарачы. А так, сапраўды, паблізу няма, акрамя Доўгага.

Нашы навукоўцы "боўталіся" на Доўгім, не злавілі ніводнай стынкі! Дайверы, аднак, сцвярджаюць: стынкі ў возеры Доўгім – шмат! Цэлыя статкі! І іншай рыбы ў Доўгім возеры безліч! Ляшчы кілаграмаў на пяць! Знаёмы дайвер мне апавядаў, што быў вельмі здзіўлены, калі спускаўся на глыбіню – па глыбінямеру дно павінна быць яшчэ далёка, але ён, невядома чаму, ужо пад нагамі бачыць – "дно"! Гэта – "сцяна" з вялізных ляшчоў! Раптам сцяна рассунулася, потым ізноў ссунулася.

Стынку я сам лавіў некалькі гадоў таму. Тут пытанне ў тым: што будзе з рыбай, якую дасталі з вялікай глыбіні на паверхню? Трэба вывучаць! Тут жа – іншы кіслародны і тэмпературны рэжым. Ці зможам мы яе жывую давезці да Гінькава. І хто цяпер здольны злавіць стынку. Няма спецыялістаў!

Яна водзіцца на глыбіні 15-20 метраў. Нераст, як надыходзяць маразы – лістапад-снежань. Раней у вёсках Псуя і Доўгае жылі дзяды, якія валодалі досведам лоўлі гэтай рыбы сеткамі. Ведалі час і месца.

Вось і навукоўцы з нашага інстытуту, атрымаўшы, натуральна, дазвол ад Мінпрыроды, хацелі адлавіць у Доўгім возеры стынкі для сваіх эксперыментаў. Раставілі невады… І што? Ды нічога! Не спецыялісты яны па лоўлі стынкі!

Наконт Гінькава возера. Адлавіць стынку пад час нерасту ў Доўгім і запусціць у Гінькава – 100% яна б там прыжылася! Рыба цікавая, пахне агурком, шмат тлушчу – можна было б яе разводзіць і ў іншых вадаёмах.

**У.С.:** Я спраўдзіў у розных даведніках інфармацыю на тэму "Вырошчванне рыб ласасёвых парод". Аказваецца, нічога складанага! Возера мусіць быць працечнае, чыстае, з глыбінямі большымі за 7 метраў. У нас хоць не шмат, але з пяток азёраў з такімі параметрамі, знойдзецца: Доўгае, Гінькава, Пліса Вялікая, Пліса Малая, Мнюта. Ладна, Доўгае возера – заказнік, яго не чапаем. А вось у возеры Пліса Вялікая – рэальна. І попыт будзе – санаторый на беразе. Натуральна, вырошчванне – у вялікіх садках, каб рыба не збегла ў Дзвіну.

**А.П.:** Сапраўды, няхай бы вырошчвалі ў садках! Нешта запускалі б і ў вадаёмы. І ў нашых магазінах можна прадаваць. Ёсць і праграма рыбаразвядзення ў Рэспубліцы Беларусь. Але сёння, напрыклад, купіць тую лічынку судака, практычна, немагчыма. Ніхто не займаецца. Толькі – карп, карась.

Размаўляў я з начальнікам Пастаўскага рыбгаса. Малады, даволі прагрэсіўны, чалавек! Маладзец! – *Я б вырошчваў,*– кажа ён,– *хоць і вельмі працаёмкі працэс. Але, каб дзяржава дапамагала, датавала, бо мне ж – не выгадна. Калі прадаваць малявак па рэальным кошце – ніхто не купіць. Ёсць выпадкі, калі не самыя бедныя фірмы, якія будуюць санаторыі, па некалькі гадоў не могуць, ці не хочуць, разлічыцца.*

Сядзяць у Мінску людзі ў кабінетах, вучоныя, прафесары… Пішуць рэкамендацыі нашым арэндатарам. А мы тут чытаем і дзіву даёмся! Бяруць, напрыклад, вадасховішча Азярцы… Гэта ж рэчка некалі была, на якой паставілі плаціну. Мелкаводнае вадасховішча! Прысылаюць з Мінска сюды рэкамендацыю – зарыбіць вадасховішча рыбай абарыгенных парод: ляшчом, судаком. Ды хоць тонамі запускай судака ў гэтае вадасховішча – жыць ён тут не будзе! Не судаковы вадаём! Карась, плотка, акунь – смецевая рыба – жыць будуць паўсюль! А вучоныя людзі, прафесары, не ведаючы характарыстыкі дадзенага вадаёма – раяць запускаць у карасёва-карпавы вадаём судака! Няма цяпер такіх дасведчаных вучоных, як былі раней, яшчэ за савецкім часам. Няма!

Яшчэ ёсць пытанне, якое трэба вырашаць. Плацяць нашыя рыбаловы – якія ловяць да 10 кручкоў – членскія ўзносы. Пад 70% ад гэтай сумы – ідзе на Мінск. Рыбаловы абураныя! Але, што зробіш, так вырашыла "наверсе" кіраўніцтва БТПР. Мы, маўляў, мэтанакіравана будзем зарыбляць усе вадаёмы Беларусі. Але, за два апошнія гады, зарыбілі толькі Мінскае мора. Глыбачане, якія плоцяць членскія ўзносы, не паедуць жа лавіць рыбу на Мінскае мора! Ладна, бралі б хоць працэнтаў дзесяць. Мы што, самі не ведаем – дзе і якія, які рыбай у нас вадаёмы можна зарыбіць?

**У.С.:** Па вялікім рахунку, Глыбокае, як горад, спланаваны няправільна! Ваша інспекцыя можа аштрафаваць любога аўтааматара за паркоўку бліжэй за 30 метраў ад берага вадаёма. Нават, калі аўтааматар не нанёс ніякай шкоды. На берагах жа гарадскіх азёраў стаяць хлявы, лазні, свінарнікі, прыбіральні, гаражы. Чарговая паводка – увесь бруд у азёры! Праз горад – па маіх падліках – працякае дзесьці 15 рэк і ручаін. У адно толькі Кагальнае возера ўпадае 4 ручаіны, выцякае адна. Усе яны працякаюць паўз гаражы, прыбіральні, прыватныя свінарнікі. Дождж, паводка – увесь бруд у азёры: Кагальнае, Вялікае, Падлазнае, Мушкат. Як паказвае мой досвед – паўтара года службы ў ЦГВ (Чэхаславакія), 15 гадоў працы ў Латвіі – усе ручаіны і рэчкі ў гарадах Еўропы працякаюць праз лесапаркавыя зоны. Гэта там склалася адвеку.

**А.П.:** У кантэксце гэтай тэмы прыходзіць на памяць выпадак… Ёсць ручаіна, якая перасякае Камсамольскую і Камуністычную вуліцы, упадае ў возера Вялікае (Беразвецкае). У мінулым годзе прайшоў моцны дождж. Усё змыла са свінарнікаў, гаражоў, туалетаў – ясна куды, у возера! Людзі звоняць! Прыязджаем! Вакол моцна смярдзіць! Пена! Суцэльная шапка з пены па ручаі – метраў 50!!! Выклікалі лабараторыю, прыехала. Ну, і што толку! Зрабілі замеры… – *Дапусціма!*,– кажуць. А як дапусціма? Дыхаць няма як, смярдзіць жа! Ладна, пачалі разбірацца самі, мо якія там прадпрыемствы стаяць? Не! Толькі жылыя дамы стаяць! Усё змыла з дамоў! Ды, і зрэшты, колькі нелегальных каналізацыйных сцёкаў зліваецца ў Кагальнае і Вялікае?



**"Круглы стол" журналістаў "ВГ" з удзелам А.В. Протаса, начальніка Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

**У.С.:** Я сам бачыў, што з боку Парка Перамогі ў возера Кагальнае выведзеная труба. Цячэ вада чорная, зімой не замярзае!

**А.П.:** Мы ведаем і прадпрыемствы, каналізацыйныя трубы якіх выведзеныя ў азёры і рэкі ў межах горада. Экалогія часта штрафуе сельгасхімію і ЖКГ. Паглядзім, што атрымаецца з гэтай каналізацыяй, якую цяпер пракладаюць у горадзе. Ці грошы "закапаюць", ці, усё ж, будзе вынік?

Калі ўзяць возера Кагальнае, то рыбы там і цяпер шмат! Карасёў ловяць кілаграмы са два! Асабліва, калі самка падчас нерасту – дакладна кілаграмы два будзе. Наведвалі мы гэтае возера пад час нерасту ляшча. Якія ж яны там вялізныя! Прысутнічае ў возеры сом. Магчыма, ён мігрваў з Ластавіцкага возера, куды яго запускалі. Ёсць карп, язь, галавень. Язь жа любіць чыстую ваду!

Так, доўгі час у нас не звярталі ўвагі на экалогію. Некалі ж настане мяжа. Пры Саюзе грошы былі – не рабілі! Толькі цяпер пачалі нешта рабіць. Але, цяжка, шмат патрэбна сродкаў укладваць.

Сёння ўсе скардзяцца: менш стала браканьераў, менш на азёрах і сетак, але і рыбы паменела! Усё так! І як колькасць рыбы можа павялічыцца? Няма нармальнай снежнай зімы – таму няма нармальнай вясны, няма паводкі, няма разліваў рэк. Як можа рыба аднеравціцца?

Дзякуй, Аляксей Віктаравіч, за цікавую і змястоўную гутарку. Па ўсяму бачна, што на шматлікія праблемы і шляхі іх вырашэння, думаем аднолькава.

**А.П.** Запрашаю вашых журналістаў у рэйд з нашай інспекцыяй па раёну.

**У.С.** Тут прысутнічаюць Зміцер Лупач і Леанід Юрык, якія не толькі пішуць, але і займаюцца відэаздымкай. Яны даўно жадаюць адправіцца з вамі ў рэйд. Могуць зняць цікавы фільм аб працы Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.



**Дайверы на возеры Доўгім.** *Фота divers.by*

# Загоннае паляванне – асаблівасці і правілы бяспекі

**Адным з самых распаўсюджаных і любімых відаў палявання ў нашых паляўнічых з'яўляецца, менавіта, загоннае паляванне.**

■ **Аляксей Абрамчык,** *старэйшы інспектар Глыбоцкай міжраённай іспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*



Аднак, як сведчыць статыстыка, менавіта падчас гэтага палявання часцей за ўсё адбываюцца няшчасныя выпадкі. Таму, мы вырашылі папярэдзіць іх магчымае з'яўленне і больш падрабязна расказаць вам аб тым, што такое загоннае паляванне і якія правілы бяспекі неабходна выконваць, каб падчас яго не адбылося непрадбачаных падзей.

Загоннае паляванне, незалежна ад яго разнавіднасцяў, складаецца з некалькіх важных этапаў. Гэта этап акладу звера, расстаноўкі стралковай лініі і ланцуга саміх загоншчыкаў і загон. Пасля гэтага ідзе стральба, дабор падранкаў, падзел здабычы, і, вядома ж, ушанаванне самага галоўнага паляўнічага за сталом пад пячонку забітай жывёлы...

Ад правільнасці расстаноўкі стралковых нумароў таксама залежыць шмат. Так, неабходна пры гэтым улічваць і асаблівасці ландшафту самой мясцовасці, і від дзічыны, і нават клас зброі. Таксама трэба браць пад увагу дасведчанасць саміх стралкоў. Для таго, каб не было блытаніны – стралкі размяшчаюцца па нумарах. А адлегласць паміж імі павінна быць дастатковай для прыцэльнага прамога стрэлу. У выпадку, калі паляванне вядзецца з наразной зброі, то такая адлегласць можа быць крыху павялічана.

Падчас чакання, пасля расстаноўкі нумароў, стралок павінен паводзіць сябе ціха. Згодна з правіламі палявання, зараджаць стрэльбу паляўнічы павінен толькі з падачы сігналу аб пачатку самога загону, так як у большасці паляўнічых гаспадарак стральба па жывёле, якая выскоквае, да сігналу пачатку загону – забараняецца.

Аднак, не ўсе паляўнічыя прытрымліваюцца гэтага правіла. Ад граматнасці загоншчыкаў або затоншчыкаў таксама залежыць вельмі шмат. Таму, на гэтую ролю лепш браць чалавека, які добра ведае мясцовасць, і ... умее гучна крычаць (на выпадак, калі ён усё ж такі заблудзіцца). Калі загоншчыкаў некалькі – неабходна выбраць з іх старшага, ён і будзе каардынаваць працу загону і сачыць за тым, каб ніхто не адстаў і не згубіўся.

Як толькі дзякуючы намаганням загоншчыкаў жывёла выходзіць на стралковую лінію, паляўнічыя павінны страляць. У выпадку пападання ў звера паляўнічы павінен гучным крыкам апавясціць групу аб поспеху. Робіцца гэта для таго, каб папярэдзіць магчымасць перастрэлаў.

У выпадку сыходу звера, каманда сумесна вырашае, як паводзіць сябе далей – перасследваць падранка або праводзіць паўторны загон.

### Правілы бяспекі падчас правядзення загоннага палявання

Як мы ўжо пісалі вышэй, менавіта падчас загоннага палявання часцей за ўсё адбываюцца няшчасныя выпадкі. Таму, для таго, каб іх папярэдзіць, рэкамендуецца прытрымлівацца наступных правілаў і рэкамендацый: загоннае паляванне праводзіцца толькі ў светлы час сутак і пры добрым надвор'і. Моцны снегапад – нагода адкласці паляванне.

Перад пачаткам загоннага палявання ўсе ўдзельнікі распісваюцца аб адказнасці і азнаямленні з правіламі бяспекі.

Вызначаць аклад звера, месцы загонаў, стралковую лінію, колькасць нумароў – прэрагатыва кіраўніка палявання. Загоншчыкі не маюць права страляць па зверу.

Стралковая лінія павінна выстаўляцца прамалінейна, на добра пазначанай мясцовасці. Стралкі павінны быць у курсе аб размяшчэнні стралковай каманды. Пакідаць месца нумара, самастойна выбіраць, дзе страляць і выходзіць з нумара да заканчэння загону – забараняецца. Выключэнне – сітуацыя, калі неабходна аказаць дапамогу іншаму паляўнічаму.

Сігнал "адбой" з'яўляецца забаронай на стральбу.

Забараняецца правядзенне стральбы ўздоўж стралковай лініі. Стралок павінен страляць толькі ў тым выпадку, калі ён бачыць звера. **Страляць на шум або шолах у кустах – катэгарычна забараняецца.**

Да заканчэння загону забараняецца пакідаць свае месца нумара і падыходзіць да параненага звера або перасследваць яго.

***

**Аб усіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства вы можаце паведаміць па тэлефоне даверу 8 (02156) 2-86-70 або на мабільныя тэлефоны: 897-23-02 (МТС), 890-55-28 (МТС), 249-45-49 (МТС), 645-66-78 (МТС).**

# Прафілактыка шаленства



**28 верасня 2016 года па ініцыятыве Сусветнай арганізацыі аховы здароўя (СААЗ) праводзіцца Сусветны дзень барацьбы супраць шаленства, асноўнай задачай якога з'яўляецца прыцягненне ўвагі да праблемы распаўсюджвання гэтай хваробы, а таксама да яе наступстваў. Дата абраная ў сувязі з тым, што ў гэты дзень у 1895 годзе памёр Луі Пастэр – знакаміты мікрабіёлаг, адзін са стваральнікаў вакцыны супраць шаленства.**

■ **Станіслаў Скіпар,** *галоўны санітарны ўрач Глыбоцкага раёна*

У Віцебскай вобласці за 6 месяцаў 2016 года колькасць хворых на шаленства жывёл павялічылася амаль у 3 разы (з 8 да 23 выпадкаў). У Глыбоцкім раёне за мінулы перыяд хворых на шаленства жывёл не зарэгістравана.

За 8 месяцаў 2016 года ў Глыбоцкім раёне па медыцынскую дапамогу з нагоды кантактаў з жывёламі (укусаў, абслюнення і драпін) у арганізацыі аховы здароўя звярнулася 78 чалавек, у тым ліку дзяцей да 18 гадоў – 25 (за адпаведны перыяд 2015 г. – 85 чалавек, у т. л. дзяцей да 18 гадоў – 31).

За 8 месяцаў 2016 года ад укусаў сабак пацярпела 56 чалавек, ад катоў – 20, ад дзікіх жывёл – 2, ад сельскагаспадарчых жывёл пацярпелых не зарэгістравана (за адпаведны перыяд 2015 году ад сабак – 67, ад катоў – 15, дзікіх жывёл – 2, ад сельскагаспадарчых жывёл – 1).

Шаленства – інфекцыйнае захворванне віруснай прыроды, якое перадаецца іншым жывёлам і людзям пры цесным кантакце са слінай інфіцыраваных жывёл – пры ўкусах, драпінах, а таксама забруджванні слінай жывёлы пашкоджанай скуры і слізістых абалонак.

Жывёлы становяцца заразнымі ў інкубацыйным перыядзе за 3-10 дзён да з'яўлення першых клінічных прыкмет.

Інкубацыйны перыяд пры шаленстве ў чалавека складае звычайна ад 10 дзён да 2 месяцаў, хоць асобныя выпадкі яго скарачэння да 7 дзён і падаўжэння да 1 года і больш.

Першыя сімптомы захворвання ў чалавека могуць выяўляцца ў месцы нанесенага пашкоджання ў выглядзе мышачных паторгванняў, свербу, болі. У пачатку захворвання адзначаюцца беспадстаўная трывога, страх, падвышаная адчувальнасць да светлавых і гукавых раздражняльнікаў, затым пачынаюцца прыступы вадабоязі: балючыя спазмы мышцаў глоткі і гартані пры спробе папіць, пры гуках вады, якая льецца. З кожным днём захворванне прагрэсуе. Смерць наступае ад паралічу дыхальнага і сардэчнасасудзістых цэнтраў.

Для папярэджання распаўсюджвання захворвання на шаленства сярод жывёл і людзей неабходна:

■ выконваць устаноўленыя правілы ўтрымання хатніх жывёл (сабак, катоў), штогод прышчапляць іх супраць шаленства;

■ выгульваць сабак у намордніку і на павадку;

■ не правакаваць укусаў хатнімі жывёламі, пазбягаць кантактаў з безнагляднымі і дзікімі жывёламі;

■ пры з'яўленні дзікіх жывёл на асабістых падворках у сельскай мясцовасці, на тэрыторыі населеных пунктаў трэба прыняць усе меры асабістай засцярогі і забяспечыць бяспеку блізкіх, паколькі здаровыя дзікія жывёлы, як правіла, пазбягаюць сустрэчы з чалавекам; аб такіх выпадках неабходна тэрмінова паведаміць у ветэрынарную службу;

■ не забіваць хатнюю жывёлу, якая пакусала або падрапала чалавека з мэтай захавання магчымасці арганізацыі за ім 10-ці дзённага ветэрынарнага назірання;

■ сістэматычна адлоўліваць усіх бадзяжных сабак і катоў (імі лічацца ўсе сабакі і каты, незалежна ад іх пароды і прызначэння, якія знаходзяцца на вуліцах, у скверах і іншых грамадскіх месцах без уладальнікаў);

■ калі кантакту з жывёлай, нават вонкава здаровай, усё ж пазбегнуць не атрымалася, неабходна самастойна правесці першасную апрацоўку раны: старанна прамыць раневую паверхню на працягу не менш за 15 хвілін струменем вады з мылам, апрацаваць краі раны 5% настойкай ёду і неадкладна звярнуцца ў медыцынскую ўстанову.

Толькі ўрач можа ацаніць рызыку магчымага заражэння вірусам шаленства і прызначыць пры неабходнасці прафілактычныя прышчэпкі.

Варта памятаць: шаленства – невылечнае захворванне, яго можна толькі папярэдзіць шляхам правядзення курсу лячэбна-прафілактычнай вакцынацыі, распачатай у максімальна кароткія тэрміны. Падчас атрымання прышчэпак:

● выконваць усе прадпісанні ўрача;

● з'яўляцца на чарговую прышчэпку строга ў прызначаны ўрачом дзень;

● не вымушайце медыцынскіх работнікаў шукаць вас;

● ні ў якім разе не адмаўляйцеся ад прызначанага лячэння і самавольна не перарывайце яго, ад гэтага залежыць ваша жыццё.

З мэтай прафілактыкі заражэння шаленствам груп людзей прафесійна звязаных з рызыкай інфіцыравання вірусам шаленства: ветэрынарным работнікам, паляўнічым, леснікам, работнікам брыгад па адлове безнагляднных жывёл і інш. рэкамендуецца атрымаць курс прафілактычных прышчэпак, якія складаецца з трох унутрымышачных увядзенняў вакцыны. Паўторная імунізацыя праводзіцца аднаразова праз год і далей кожныя тры гады.

